Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 37 (91). Нядзеля, 25 Кастрычніка 1925 г. м. Вільня Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 мес. 80 гр.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
Можна паштовымі маркамі.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —15 гр
за радок нонпарэля: у тэксьце — 20 гр
на апош. стар. 10 гр

## Сьмертны прыгавор.

Гэтымі днямі закончылася Лёкарнская конфэрэнцыя.

Закончылася яна поўным пахаваньнем Вэрсальскага трактату.

Разам з гэтым скончылася і 11-гадовая вайна, якая фактычна цягнулася яшчэ да гэтага часу паміж пераможцамі й пераможанымі і пасьля падпісаньня Вэрсальскага трактату.

У Лёкарно адбылося, нарэшце ня толькі фармальнае, але і фактычнае замірэньне Эўропы.

На гэтай конфэрэнцыі ня было ўжо пераможцаў і пераможаных, а ўсе былі роўнымі. І, дзякуючы гэтаму, вялікія эўропэйскія дзяржавы, замест таго каб душыць адна адну, дагаварыліся і замірыліся.

Чаму так сталася?

Якая дзіўная сіла змусіла пагадзіцца антытэзы,—вагонь і ваду, абеднацца гэткіх сьмяротных ворагаў, якімі былі да гэтага часу, французы і немцы?

З тэксту дагавораў, падпісаных на Лёкарнскай конфэрэнцыі, аб гэтым даведацца ня можна. Ды і ня ў вонкавай форме дагавораў трэба шукаць разьвязкі гэтых пытаньняў, бо галоўныя, кардынальныя справы вырашаліся не на адкрытых паседжаньнях конфэрэнцыі, а ў патаемных размовах, якія за кулісамі конфэрэнцыі вяліся паміж „стаўпамі" эўропэйскай палітыкі — Брыанам, Штрэзэманам, Чэмберленам і Мусоліні. Вось гэтыя сэкрэтныя конфэрэнцыі і прывялі да паразуменьня і фактычнага замірэньня.

Лёкарнская конфэрэнцыя закончылася поўным трыумфам ангельскай палітыкі. Трэба зазначыць, што Англія зьяўляецца магутнай капіталістычнай дзяржавай, сіла якой залежыць ад яе колёніяў. Пасьля розных спробаў і досьледаў, Англія нарэшце зразумела тую вялікую небясьпеку, якой пагражае пашырэньне комуністычнай заразы на яе колёніі. Апошнія падзеі ў Кітае, крывавы ваенны пажар у Мароко і Сірыі, завастрэньне масульскага конфлікта, усё гэтае ясна паказала, якой вялікай пагрозай для эўропэйскай цывілізацыі зьяўляецца III Інтэрнацыянал.

Зразумеўшы гэтую небясьпеку, Англія ў апошні час заняла вельмі цьвёрдую і востра-варожую пазіцыю ў адносінах да С. С. Р. Р.

І вось перамога Англіі на Лёкарнскай конфэрэнцыі ясна гаворыць аб тым, што і іншыя эўропэйскія дзяржавы таксама добра зразумелі гэтую небясьпеку.

У гэтым і крыецца разгадка ўдачнага канца Лёкарнскай конфэрэнцыі. Небясьпека Чырвонага Усходу аб'еднала ўсіх, нават самых заклятых ворагаў.

Яшчэ гэтак нядаўна маскоўскія чырвоныя каты тысячамі падпісывалі сьмертныя прыгаворы сваім нешчасьлівым ахвярам, яны крывёю залілі вольную Грузію, яны гатавалі сьпіскі сьмертнікаў у Эстоніі, яны завочна прыгаварылі к сьмерці Папу Рымскага і Лёйд-Джоржа; яны, чакаючы пашырэньня сваёй улады на рэшту сьвета, вастрылі ўжо сваі бандыцкія нажы для мільёнаў новых ахвяраў.

А цяпер у Лёкарно Эўропа падпісала сьмертны прыгавор ім самім— усей міжнароднай бандзе, якая носіць назву ўраду С. С. Р. Р. і Комінтэрну.

Праўда, шмат часу страчана дарма. Доўга, можа занадта доўга, Эўропа бадзялася ў пацёмках. Прабавала яна „прызнаваць", „гандляваць", а нават і „банкетаваць" з прадстаўнікамі гэтай банды. І тое, што можа вельмі лёгка можна было зрабіць 4 гады таму назад, цяпер зрабіць будзе значна цяжэй.

Але лепей позна, чым ніколі.

Мы пэўны, што і цяпер яшчэ, пры шчырай і рашучай акцыі, *пры актыўнай дапамозе тых народаў*, якія стогнуць пад тэррорам міжнародных бандытаў, улада апошніх ня вытрымае і лопне, як мыльны пузыр.

Можна сьмела сказаць, што пасьля таго, як ўся Эўропа задэмонстравала сваю солідарнасьць з тактыкай Англіі ў адносінах да С. С. Р. Р., бальшавікам ужо не памогуць ніякія чортавы хітрасьці Чычэрына і іншых савецкіх дыплёматаў.

І зусім дарма „арыстакрат" Чычэрын падлечывае сваё паскуднае цела. Было-б лепей, каб ён падумаў аб сваёй паганай душонцы, бо скора ўжо, вельмі скора прыдзе час, калі ўсіх бальшавіцкіх павадыроў пасьцігне тая самая вучасьць, якую яны прыгатавалі для іншых.

## Беларусь у пэрспэктывах.

У вялікі гістарычны мамэнт, калі перабудовываўся ўвесь сьвет, калі многія народы дасягнулі мэты сваіх нацыянальных лятуценьняў, у мамэнт калі паўстаў цэлы шэраг новых вольных дзяржаваў — беларускому народу выпала цяжкая доля.

Беларускі народ ня толькі ня стаўся вольным, але жывое цела яго—тэрыторыя — была падзелена на дзьве часткі. Пасьля гэтага падзелу, няшчасьці адно за адным пасыпаліся на галаву беларускага народа. Калі адна частка беларусаў, ня гледзячы на конституцыю дэмократычнай дзяржавы, ня чуе сябе поўнапраўнымі грамадзянамі гэтае дзяржавы, дык другая частка, жывучая ў дзяржаве, дзе скасаваны ўсе законы Божыя і чалавечыя, дзе пануе праізвол нязначнай кучкі міжнародных разбойнікаў і жулікаў, гэтая частка беларускага народа асабліва цяжка адчувае тую вялікую крыўду, якая ёй досталася ў насьледзтва, ў рэзультаце апошніх міжнародных падзеяў.

Прайшло шэсьць цяжкіх, шэсьць чорных, як восеньняя ноч, гадоў. Бальшавіцкая ўлада ўсе гэтыя гады рабіла на Беларусі ўпартую, пляновую і чортава-хітрую работу; яна ўсе высілкі пакладала на тое, каб перарабіць беларускі народ на свой комуністычны лад. Разагнаўшы першае беларускае прадстаўніцтва, якое прымушана была эміграваць, аддаўшы ў лапы чэкістаў тых, хто не хацеў пакідаць Бацькаўшчыны, але і ня згаджаўся запісацца ў чырвоныя рады, бальшавікі скоро зразумелі, што гэткімі способамі яны ня здолеюць падпарадкаваць сабе беларускі народ; яны зразумелі, што весьці барацьбу на Беларусі адразу на двух фронтах: нацыянальным і соцыяльным ім будзе не пад сілу. Яны ўбачылі, што беларускі адраджэнчы рух, чым больш яго давяць, тым больш ён расьце і пашыраецца.

Яны ўбачылі, што беларускае сялянства, ня гледзячы на страшэнны тэррор, рашуча паўстала проці спробаў комунізацыі вёскі. Усё гэтае змусіла бальшавікоў зьмяніць сваю тактыку. Будучы гэніяльнымі фальсыфікатарамі, яны рашылі сфальсыфікаваць беларускі рух гэткім чынам, каб ён ня толькі ня быў для іх шкадлівым, але каб даў ім яшчэ і пэўныя карысьці. З гэтай мэтай яны далі беларусам шырокія нацыянальна-культурныя свабоды, пад адным аднак-жа бязумоўным варункам, што ўся культурна-нацыянальная праца на Беларусі ня толькі будзе ісьці пад сьцягам комунізму, але і з тым, што ўся гэтая праца будзе зьвязана і злучана комуністычнай партыяй. І ў той самы час, пад прыкрыцьцем тварэньня нацыянальнай культуры, на чале савецка-беларускага руху становяцца розныя прахадзімцы, ніколі і нічога супольнага ня меўшыя ня толькі з беларускім нацыянальным рухам, але нават з самім народам і беларускай тэрыторыяй.

Гэтак было, напрыклад, з вядомым катам Мясьніковым—армянінам.

Аднак жа здаровы народны інстынкт адразу пачуў фальш у бальшавіцка-беларускім нацыянальным будаўніцтве і беларускі народ рашуча выступіў проці розных комуністычных твораў і экспэрымэнтаў.

Праўда, у гэтым будаўніцтве Беларусі па савецкаму рацэпту прымалі ўдзел і многія шчырыя беларусы, як зусім апалітычныя, так нават і пракананыя антыбальшавікі. Яны йшлі на гэты компроміс з Савецкай ўладай дзеля вышэйшых мэтаў—мэтаў нацыянальных. І трэба прызнаць, што часткі гэтых мэтаў яны дапялі, але аднаchасова, сваім удзелам у савецкім будаўніцтве, яны страшэнна ўзмацнілі бальшавіцкую ўладу на Беларусі і нявольна памаглі комуністычнай партыі яшчэ мацней закрапіць праклятае ярмо іх улады на шыі няшчаснага беларускага народа.

Аднак-жа, калі можна яшчэ знайсьці якое-колечы апраўданьне тым беларусам, якія пайшлі на компроміс з бальшавіцкай уладай дзеля культурна-нацыянальнай працы, дык тым, што прысталі да бальшавікоў, як палітычныя дзеячы, ні народ, ні гісторыя ніколі гэтага не даруюць. Перад усім гэта датычыцца беларускіх эсэраў, якія згодна пастановы сваёй партыйнай конфэрэнцыі цалком перайшлі ў комуністычную партыю.

Беларускі народ, пачынаючы ад 1919 года, мамэнта Слуцкага паўстаньня, і да сёнешняга дня, бязупыннымі паўстаньнямі, біцьцём на сьмерць розных камісараў, селькораў, чэкістаў і іншых савецкіх урадоўцаў,—зусім выразна задэмонстраваў свае адносіны да бальшавіцкай улады. Рызыкуючы сваім жыцьцём, народ беларускі магутнай шэрай масай паўстаў на абарону Бацькаўшчыны, на барацьбу за паруганыя храмы, за веру бацькоў, за сваю родную, палітую потам і крывёй зямельку, якую бальшавікі аддаюць жыдоўскім колёністам. І ня толькі шэрая сялянская маса паднялася на барацьбу проці комуністычнага панаваньня. Разам з народам, у цяжкую для яго хвіліну пайшла і лепшая частка яго інтэлігэнцыі, якая пакінуўшы на Бацькаўшчыне ўсё роднае і дарагое, стала на чале паўстаўшага народу.

Горкая, эмігранцкая доля была ўдзелам гэтай інтэлігэнцыі... Аднак-жа і ў цяжкіх варунках эмігранцкага жыцьця, беларуская анты-бальшавіцкая інтэлігэнцыя не запамятавала сваіх лятуценьняў і не пакінула сваёй антыбальшавіцкай працы. Праца гэтай інтэлігэнцыі была вельмі цяжкая, бо ёй прышлося змагацца ня толькі з комуністамі звычайнага міжнароднага гатунку; ёй прышлося яшчэ весьці барацьбу і з часткай сваей роднай беларускай інтэлігэнцыі, якая далучылася да бальшавікоў. З вялікай прыкрасьцю прыходзіцца констатаваць, што і тут у заходня-парлямэнтарнай Польшчы, паміж беларускай інтэлігэнцыі знайшліся людзі, якія ня толькі прынялі бальшавіцкую праграму, але і ўсімі сіламі падтрымліваюць тую закардонную ўладу, якая вось ужо 6 гадоў мучыць і давіць беларускі народ.

Але, прыдзе час і кожны дастане па заслугам. Беларускі народ цяжка пакарае тых, хто ў цяжкую часіну здрадзілі яму і перайшлі на старану яго катаў.

І вось ізноў для Беларусі надыходзіць мамэнт вялікай гістарычнай вагі. У Лёкарно, дзе рашаўся лёс вялікіх

эўропэйскіх дзяржаваў, адначасова рашаўся і наш лёс.

Увесь культурны Захад гатуецца да новай барацьбы; ён падымаецца на абарону многавекавай культуры і цывілізацыі, ён ідзе, каб раздавіць чырвонага гада.

І вось скора наступіць мамэнт, калі лёс беларускага народа, уся яго будучына, будзе залежаць ад яго самаго, ад тых павадыроў, якіх ён паставіць на чале свайго руху.

І мы пэўны, што вяршыць лёсам беларускага народу будуць ня комуністы і ня іх падгалоскі з рожнай соцыялістычнай ахварбоўкай. Мы пэўны, што беларускі народ з агідай адкіне ўсіх тых, хто памагаў комуністам налажыць іх паганае ярмо на нашую Бацькаўшчыну, усіх тых, хто прадаў веру бацькоў, хто дапусьціў да ганьбы сьвятыя храмы, хто не абараніў праву народу на зямлю.

Надыходзіць адпаведнейшая гістарычная хвіліна і мы праконаны, што беларускі народ не памыліцца. Ен з агідай скіне комуністычную ўладу, а разам і адкіне ўсіх тых, хто ішоў з ёю. А на чале паўстаўшага народу стануць яго праўдзівыя сыны, якія павядуць яго да праўдзівай волі і лепшай будучыны.

А мы — беларуская антыбальшавіцкая інтэлігэнцыя, мы павінны будзем споўніць свой сьвяты абавязак перад Бацькаўшчынай і перад памяцьцю тых нашых братоў, якія ўжо злажылі свае галавы ў барацьбе з бальшавікамі.

І супольныя высілкі народу і яго інтэлігэнцыі прывядуць беларускую нацыю к лепшай, вольнай будучыне сярод культурных эўропэйскіх народаў.

*А. Паўлюкевіч.*

# Палітычны агляд.

У суботу 17 кастрычніка ў Лёкарно ўдачна закончылася конфэрэнцыя міністраў заграрічных справаў Англіі, Францыі, Нямеччыны, Бэльгіі, Італіі, Польшчы і Чэха-Славакіі, на якой разглядалася пытаньне аб абясьпечаньні эўропэйскага міру.

Рэзультатам гэтай конфэрэнцыі зьяўляецца 7 актаў: заходні гарантыйны пакт француска-нямецкі і бэльгійска - нямецкі арбітражныя дагаворы; польска-нямецкі і чэшска-нямецкі арбітражныя дагаворы і француска-польскі і француска - чэшскі гарантыйныя дагаворы.

На чале ўсіх гэтых міжнародных актаў стаіць рэйнскі пакт бясьпекі, на падставе якога Нямеччына, Францыя і Бэльгія абязуюцца захоўваць установленыя вэрсальскім трактатам усходнія граніцы Францыі і Бэльгіі. Выкананьне гэтых пастановаў гарантуюць Англія і Ліга Народаў. Арбітражныя дагаворы між Нямеччынай з аднаго боку і Францыяй, Бэльгіяй, Польшчай і Чэха-Славакіяй, кожнай паасобку з іншай дзяржавай—маюць пастановы, на падставе якіх усе спорныя палітычныя і эканамічныя пытаньні, між гэтымі дзяржавамі, перадаюцца на разгляд арбітражнага суда. Арбітражныя трактаты не датычацца пытаньня аб граніцах, дзеля таго, што вэрсальскі трактат захаваў сваю моц. Дзеля таго, што Нямеччына не хацела падпісаць з Польшчай і Чэха-Славакіяй пакт бясьпекі накшталт рэйнскага, які гарантаваў-бы бясьпеку заходніх межаў Польшчы і Чэха-Славакіі, дык Францыя верная ўсходняму хаўрусу з гэтымі дзьвюма дзяржавамі, самастойна падпісала з імі гарантыйныя трактаты, на падставе якіх абязуецца даць ім ваенную падмогу, калі-б Нямеччына незаконна напала на іх. Італія абмяжавалася падпісаньнем заходняга пакта. Усе гэтыя дагаворы падпісаны часова. Пасьля якы павінны быць прыняты адпаведнымі парлямэнтамі і 1 сьнежня ў Лёндане будзе склікана новая конфэрэнцыя міністраў заграрічных справаў гэтых самых сямёх дзяржаваў, на якой ужо будуць падпісаны ратыфікацыйныя дакумэнты. Ад гэтага часу яны ўвойдуць у законную сілу.

Значэньне Лёкарнскага паразуменьня вялізнае, шмат вялікшае за вэрсальскі трактат, які аказаўся зусім нежыцьцёвым. У той час, як Вэрсальскі трактат зрабіў разьдзел заходняй Эўропы на 2 варожых лагеры, якія існавалі праз увесь час вайны, Лёкарнскае паразуменьне зусім зьніштажаэ ўсялякую розьніцу між пераможанымі і пераможцамі. Праўда, Лёкарнскае паразуменьне не гарантуе вечнай згоды, але затое значна перашкаджае магчымасьці будучай вайны між памянёнымі дзяржавамі, дзеля таго што ўсе конфлікты будуць разглядацца арбітражным судом. У гэтым вялізная заслуга францускіх левых урадаў Эрыё і Пэнлевэ, якія ад першых дзён свайго існаваньня парвалі з ранейшым палітычным курсам шовіністычнага ўраду Пуанкарэ-Мільерана і ўвайшлі на шлях узаемнага паразуменьня з Нямеччынай. Дзеля гэтага, хаця ўсе ўчасьнікі конфэрэнцыі аднолькава выказываюць гарачае здаволеньне, што дайшлі да згоды, Нямеччына мае падставу быць здаволенай больш за ўсіх, бо фактычна яна аказалася перамогшай. Перш за ўсё гэтым актам яна змыла з сябе пляму пераможанай, на якую падаў увесь цяжар моральных і матэрыяльных рэзультатаў праіграпай вайны. У новым паразуменьні ані разу не ўспамінаецца аб пераможаных і пераможцах. У Лёкарно гутарылі, як роўныя з роўнымі. У гэтым парука трываласьці паразуменьня. Другой удачай Нямеччыны зьяўляецца тое, што ёй удалося падпісаць рэйнскі пакт бясьпекі, не зрабіўшы гэтага самага з Польшчай і Чэха-Славакіяй, як гэтага дамагаліся Францыя, Польшча і Чэха-Славакія. Хаця Францыя й падпісала гарантыйныя дагаворы з Польшчай і Чэха-Славакіяй, але ня будзе магчы самастойна выступаць на абарону гэтых дзяржаваў, ня быўшы ўпаўнамочанай Радай Лігі Народаў. Наагул пактам бясьпекі зьвязываецца асабістая ініцыятыва Францыі, як з боку падмогі сваім хаўрусьнікам на ўсходзе, гэтак сама і з боку аружнага выступленьня проці Нямеччыны. Каб дайсьці да згоды ў справе ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, для яе былі зроблены выняткі з 16 параграфа статута Лігі Народаў, на падставе якога, калі-б на Польшчу напала СССР., Нямеччына павінна прапусьціць праз сваю тэрыторыю войска Францыі або іншай дзяржавы, якая пойдзе на падмогу Польшчы. Нямеччына катэгарычна адмовілася ад гэтага пункту, апраўдываючыся сваёй безаружнасьцю і дагаворам з СССР. І Францыя, якая больш за ўсіх упіралася на гэта, была прымушана ўступіць. 16 параграф растлумачылі гэтак, што калі-б напалі на Польшчу, справа пропуску француcкага войска праз нямецкую тэрыторыю будзе аддадзена на разгляд нямецкага парлямэнта, які, ведама, ніколі на гэта ня згодзіцца.

Для Нямеччыны ўваход у Лігу Народаў мае вялізнае практычнае значэньне. Перш за ўсё ёй, як вялікай дзяржаве, дадзена месца ў Радзе Лігі, складзенай раней з 9-ёх сябраў. Увайшоўшы ў Лігу Народаў, яна на падставе 16 параграфа статута Лігі можа мірным шляхам дабівацца зьмены граніцаў. А далей ёй абецана Англіяй передача мандатаў над некаторымі ранейшымі яе колёніямі, як Камэрун, Того і інш. Апрача таго пачалася падгатоўка эвакуацыі прырэйнскай тэрыторыі, якая яшчэ засталася пад акупацыяй Францыі і Англіі.

Гэткім чынам, дзякуючы Лёкарнскаму паразуменьню і ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, Нямеччына атрымоўвае ранейшае сваё палітычнае палажэньне сярод эўрапэйскіх сусьветных дзяржаваў. А, атрымаўшы ранейшае палітычнае палажэньне, Нямеччына думае папрaвіць і свае тэрыторыяльныя граніцы. У гэтым вось ёсьць небясьпека для некаторых суседзяў Нямеччыны. Але зусім магчыма, што калі ўва ўсіх падпісаўшых дагавор будзе добрая воля, дык аружнага конфлікта ня будзе. Што-ж датычыцца іншых учасьнікаў закончыўшайся конфэрэнцыі, дык яны ў асобе Нямеччыны здабываюць новы паважны фактар эўрапэйскага міру. Уся заходняя Эўропа ўтварае нешта накшталт Злучаных Штатаў, адну палітычную цэласьць, замест ранейшага разьдзелу на два варожыя лагеры.

У гэтым гістарычнае значэньне Лёкарнскага паразуменьня і яго вышэйшасьць над Вэрсальскім трактатам.

У гэтым і парука ўдачнага змаганьня з бальшавізмам, які дагэтуль карыстаўся рознымі пепаразуменьнямі між Нямеччынай і яе суседзямі.

N.

## Прыгавор у справе Мурашкі.

(*Тэлефонам ад уласнага корэспандэнта*).

НАВАГРАДАК. 24.Х.25. Сягоньня закончыўся працэс б. ст. пшодоўніка Я. Мурашкі, якога абвінавачывалі ў забойстве палітычных вязьняў Багінскага і Вечоркевіча. Суд прыгаварыў Мурашку на два гады папраўчага дому.

*П. А.*

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

⥱ На апошнім паседжаньні 23 г. м. Сойм 182 галасамі проці 153 адкінуў прапазыцыю „Вызваленьня“ аб выражэньні недаверыя ўраду Грабскага.

Відаць перарыў паседжаньняў Сойму прынёс толькі карысьць кабінэту Грабскага. Агульны настрой цяпер у Сойме шмат спакайнейшы, чымся быў на першых паседжаньнях. Раней здавалася, што соймавая большасьць выкажа вотум недаверыя ўраду, а цяпер ужо зьяўляецца пэўным, што кабінэт Грабскага ўтрымаецца.

⥱ 19 і 20 кастрычніка ў міністэрстве ўнутраных справаў адбылася конфэрэнцыя ваяводаў, школьных куратараў і старшыняў акруговых зямельных камісіяў з Вільні, Наваградка, Беластока, Бярэсьця, Луцка, Львова, Тарнопаля, Станіслававa і Любліна. На конфэрэнцыі разглядалася справа комуністычнага руху ў Польшчы. Ваяводы прадставілі палажэньне комуністычнай дзеяльнасьці на іхніх тэрыторыях і рэзультаты змаганьня з ёю.

Была зьвернена ўвага на комуністычную агітацыю сярод моладзі, паміж якой комуністы асабліва энэргічна вядуць сваю працу.

⥱ На адным з апошніх паседжаньняў Сойму вялізнае ўражаньне зрабіла прамова пасла Быркі, які ўнёс прапазыцыю ўтварыць камісію з 7 паслоў для пракантраляваньня фінансавай і скарбовай гаспадаркі Ураду. Камісія гэта будзе мець гэткія заданьні: 1) праверыць варункі зробленых урадам пазыкаў і гарантыяў, 2) пракантраляваць спосаб іх выкарыстаньня, 3) прадставіць агульны стан скарбу Дзяржавы, прыймаючы пад увагу яго·ныя плывучыя запасы і платныя абавязкі.

Камісія будзе мець права кантраляваць ўсе акты і кнігі, калі яна знойдзе гэта патрэбным, а таксама рабіць запытаньні сябрам Ураду і інш. асобам, якіх яна знойдзе патрэбным пытацца. Камісія гэта павінна даць справаздачу Сойму ў працягу 6 дзён.

Пасьля Быркі прамаўляў пасол Тугутт. Яго прамова была моцная і ясная. Ен востра крытыкаваў міністра фінансаў, утрымоўваючыся аднак у тоне належнай пашаны.

## За граніцай.

**Францыя.** Француская комуністычная партыя, дзеля пратэсту проці мароканскай і сірыйскай кампаній назначыла на 12 кастрычніка агульную 24-х гадзінную забастоўку. Ня глядзячы на энэргічную прапаганду, забастоўка ня ўдалася. Баставала тольκі частка рабочых.

**Італія.** Газэты пішуць з Reggio Nel Emilio, што ўсе фашысты, якія былі абвінавачаны ў забойстве соцыялістычнага кандыдата Піччыні, апраўданы.

**Грэцыя.** 20 кастрычніка на грэцка-баўгарскай граніцы здарыўся збройны конфлікт з прычыны стрэлаў пагранічнае старожы. Грэцкі ўрад зьвярнуўся да баўгарскага з нотай, у якой дамагаецца пакараньня вінаватых і адшкадаваньня для семьяў забітых жаўнераў.

Апрача таго вайсковая ўлада загадала аднэй дывізіі ўвайсьці на баўгарскую тэрыторыю.

Грэкі занялі баўгарскае мястэчка Пэтрыцу, якое ляжыць у адлегласьці 1 кілём. ад граніцы.

**Літва.** Дамаганьне Англіі, каб быў адазваны назад літоўскі пасол у Лёндане Гальванаускас, які некультурна вёў сябе на апошнім паседжаньні Лігі Народаў, зрабіла надта трудным палітычнае палажэньне літоўскага ўраду. Гальванаўскас зьяўляецца выдатным прадстаўніком хрысьціянска-дэмократычнае партыі і яго прымусовы выезд з Лёндана ёсьць няўдачай ураду, які складаецца выключна з прадстаўнікоў гэтай партыі. Дзеля гэтага спадзяюцца новага кабінэтнага крызіса. Міністар заграрічных справаў праф Рэйніс, які публічна пахваліў паступак Гальванаўскаса ў найбліжэйшыя дні пойдзе ў адстаўку.

# Агляд прэсы

Нядаўна на паседжаньні Соймавай Адміністрацыйнай Камісіі пасол Узембла (П. П. С.), выступаючы проці зьмены назовы Дэлегатуры ў Вільні на Віленскае Ваяводзтва, закрануў проэкт аўтаноміі для ўсходніх ваяводзтваў.

„Dziennik Wileński‘ — які ўжо ня першы раз выступае проці аўтаноміі, між іншым піша:

> ... Крэсы г. наз. беларускія зусім не зьяўляюцца беларускімі (sic!— *Рэдакцыя Г. Г.*) Немагчыма выразка на землях географічна польскіх, адналітага і нацыянальна згуртаванага беларускага абшару...

Ведама, што каб узмацаваць свае доказы, „Dz. Wil.“ дае цыфровыя статыстычныя данныя, паводле якіх на абшары, якому П. П. С. хоча даць аўтаномію, ёсьць толькі 36,3 прац. беларусаў!

Ах, гэтая статыстыка! Хто толькі яе тут не рабіў! І заўсёды цыфровыя данныя былі карысны для рабіўшага статыстыку. Як можна верыць гэтай афіцыяльнай статыстыцы—добра ведама... А далей:

> Проці аўтаноміі для беларусаў трэба востра выступаць дзеля таго, што яна зьяўляецца спробай даць штучную перавагу беларускай меншасьці, разьвязваючы, проці рашучай волі польскай большасьці края, тыя вузлы, якія вяжуць гэты край з рэштай Рэчыпаспалітай.
>
> Языковыя законы, даючы шырокія (?! — Рэд.) правы беларускай меншасьці, зьяўляюцца гарантыяй яе свабоднага культурнага разьвіцьця і беларускае насяленьне замест слухаць здурэўшых дэмагогаў лепш зробіць, калі зьвернецца на ўзмацаваны адвечнай традыцыяй шлях вернасьці і лёяльнасьці да Польскае Дзяржавы.

Па гэтаму шляху — шляху лёяль-

